*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990г.)
№ 27(187)
6 ліпеня 1994 г.
Кошт -- 150 рублёў

**Пра «мяккую» русіфікацыю, альбо Антановіч там, Антановіч тут**
Стар. 2

**Маліцца на роднай мове — найлепей дагадзіць Богу**
Стар. 3

## ПОСТУП ТЫДНЯ



**УРАЧЫСТА АДЗНАЧАЕ БЕЛАРУСЬ 50-ГОДДЗЕ ВЫЗВАЛЕННЯ АД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ.** Народ аддае дань павагі ветэранам вайны, а таксама тым, хто загінуў у змаганні з карычневай фашысцкай навалай.

* * *

**РЫХТУЮЧЫСЯ ДА ДРУГОГА ТУРА ПРЭЗІДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ,** грамадскасць Беларусі актыўна аналізуе вынікі галасавання ў першым. Адзначаецца выбар Менска. В.Кебічу тут аддадзена толькі чацвёртае месца і адпаведна 18,2 працэнта галасоў выбаршчыкаў, якія прыйшлі на выбарчыя ўчасткі. А.Лукашэнка заняў першае месца, але следам за ім з невялікім адрывам ішоў С.Шушкевіч, адпаведна — 26,5 і 21,2 працэнта. Трэцім быў З.Пазьняк —20,9 працэнта галасоў.

* * *

**ДРУГІ ТУР ПРЭЗІДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ, ЯК ПАВЕДАМІЎ ЦЭНТРВЫБАРКАМ, АДБУДЗЕЦЦА 10 ЛІПЕНЯ.**

* * *

**КАНДЫДАТ У ПРЭЗІДЭНТЫ А.ЛУКАШЭНКА СКАЗАЎ ЖУРНАЛІСТАМ**, што старшыня Камітэта дзяржбяспекі даручыў начальнікам абласных упраўленняў КДБ дамовіцца аб сумесных (?) дзеяннях са старшынямі выбарчых камісій. А.Лукашэнка лічыць: справа можа ісці аб фальсіфікацыі вынікаў галасавання другога тура. З КДБ паведамілі, што там увогуле палітыкай не займаюцца і служаць беларускаму народу.

* * *

**ЁСЦЬ ЗВЕСТКІ,** паведаміў журналістам кандыдат у прэзідэнты А.Лукашэнка, аб спробах начальнікаў высокіх рангаў вывезці за межы Беларусі вялікую колькасць каштоўных металаў і капіталаў. Другі кандыдат у прэзідэнты, В.Кебіч, выказаўся наконт гэтай заявы ў тым сэнсе, што вывозіць практычна няма чаго.

* * *

**ПАЛІТЫЧНАЯ НЕСТАБІЛЬНАСЦЬ ВЕЛЬМІ ПЕРАШКАДЖАЕ** наладжваць нармальную гаспадарчую дзейнасць. Вярнуўшыся з Жэневы, Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб паведаміў журналістам, што беларускай дэлегацыі давялося многа пераконваць заходнееўрапейскіх прадпрымальнікаў, каб яны не баяліся ўкладваць капіталы ў развіццё эканомікі Беларусі. Але бізнесмены насцярожаны валтузнёй з аб'яднаннем грашовых сістэм Расіі з Беларуссю. «Яны разумеюць, — сказаў журналістам М.Грыб, — што ў бліжэйшы час аб'яднання не адбудзецца, і мы з імі не спрачаемся, таму што згодныя».

* * *

**АПЫТВАЮЧЫ БЕЛАРУСАЎ,** сацыёлагі, згодна са звесткамі агенцтва РІД, толькі дзіву даюцца памкненням нашага насельніцтва. З аднаго боку, ёсць пакуль немалая колькасць прыхільнікаў аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расіі, а з другога —толькі 39,6 працэнта апытаных такую меру згодны падтрымаць, калі яна пацягне за сабой падпарадкаванне Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ураду суседняй дзяржавы. Калі ж вынікам аб'яднання стане здача незалежнасці Беларусі, то колькасць прыхільнікаў адзінай грашовай сістэмы ўвогуле паменшаецца да 24,5 працэнта апытаных жыхароў нашай краіны.

* * *

**АДНА З САМЫХ «СВЕЖЫХ» ПРЫПЕВАК,** сабраных студэнтамі і выкладчыкамі Віцебскага педінстытута ў час выездаў на фальклорную практыку ў «глыбінку», прысвечана бессмяротнай на Усходняй Беларусі Сямёнаўне. Яна гучыць так: «Ой, Сямёнаўна, баба шумная, прэзідэнта выбірай — толькі разумнага!»

*АЛЕ! АЛЕ!*

## Арытмія «Пульса...»

***«Русский или белорусский? — так называўся адзін з рэдакцыйных артыкулаў гомельскай шматтыражнай газеты «Пульс «Коралла» ў верасні мінулага года. Пагадзіцеся, сама пастаноўка пытання і месцы слоў у ім вельмі красамоўныя: спачатку згадваецца мова суседа, і толькі потым — дзяржаўная мова нашай краіны. А пытанне ўзнікла таму, што зацверджаная дзяржаўная праграма развіцця беларускай і іншых моў у рэспубліцы прадугледжвала ў 1991 — 1993 гг. перавесці выданне ўсіх шматтыражак на родную мову.***

Але ж для рэдакцыі газеты гомельскага вытворчага аб'яднання «Карал» гэта, відаць, не з'яўляецца нарматыўным актам, абавязковым да выканання. Таму яна спачатку вырашыла «детально и всесторонне изучить проблему» магчымасці пераходу на беларускую мову. Пасля адпаведнага апытання высветлілася, што амаль тры чвэрці каралаўцаў — беларусы, для паловы іх — усё роўна, на якой з моў будзе выходзіць газета, толькі па-беларуску газету хацелі б чытаць усяго 11 працэнтаў, па-расійску — 42 працэнты.

Са сваіх даследаванняў рэдакцыя зрабіла такую выснову: «проводить прежнюю линию, т.е. печатать свою газету на двух языках». Але ж справа, па-першае, у тым, што «Пульс...» тут яўна збіваецца на арытмію, бо па-ранейшаму фактычна выдаецца толькі па-расійску. Па-другое, згаданая рэдакцыйная выснова ніяк не супадае з законным жаданнем нацыянальна свядомых супрацоўнікаў вытворчага аб'яднання «Карал» чытаць сваю газету на роднай мове. Да ўсяго, як жа не ўлічваць, што гэта аб'яднанне знаходзіцца не ў Расіі, а пераважная большасць занятых там людзей — беларусы. І, здаецца, зусім не да твару прафесійным журналістам «Пульса...» не спрыяць рэабілітацыі матчынага слова, якое, тым больш, зараз з'яўляецца дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь.

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ.**
**г.Менск.**

*У газетах*

## ПРАДСТАЎНІК ЗША ПРА БЕЛАРУСКУЮ ІДЭЮ

Як паведаміла менская незалежная газета «Свабода» (№ 24, 21—27 чэрвеня г.г), амерыканскі Часовы Паверaны сп.Джордж Крол, выступаючы на Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Беларуска-амерыканскія гістарычныя і культурныя ўзаемадачыненні...» (праводзілася ў беларускай сталіцы сёлета ў чэрвені) падкрэсліў, што амерыканцам яшчэ належыць зразумець унікальную гісторыю Беларусі — не толькі трагедыю беларускага народа.., але і ягоны росквіт як нацыі, якая пераадольвае вялізныя перашкоды, каб захаваць уласнае «я», і пры гэтым не памнажае нянавісці да іншых народаў. Прамоўца таксама адзначыў, што, на жаль, у рамках Еўропы гэта вельмі рэдкі выпадак такога праяўлення нацыянальнай ідэі.

Дыпламат вымушаны быў канстатаваць, што веды амерыканцаў пра Беларусь дагэтуль амаль нулявыя, а большасць амерыканскіх грамадзян нават не здолее знайсці гэту краіну на геаграфічных картах, не кажучы ўжо пра веданне беларускай гісторыі і культуры. Адначасова з гэтым на Беларусі, наадварот, усе грамадзяне добра ведаюць пра існаванне Злучаных Штатаў Амерыкі. Хоць, як працягваў сп.Джордж Крол, уяўленні беларусаў аб сучасных амерыканскіх рэаліях склаліся галоўным чынам пад уплывам кінастужак Галівуда, якія не заўжды малююць дакладны партрэт маёй краіны.

Дададзім, што цяпер разавы наклад «Свабоды» рэзка ўзрос (з 20 тыс. да 35 тыс. паасобнікаў). Газета зараз ніколі не залежваецца ў кіёсках, літаральна ідзе нарасхват, бо аператыўна паведамляе пераважна пра тое, пра што не піша ніхто.

**М.В.**

*ДЗЕ І ШТО?*

## Берасцейскі «Шлях» у дарозе

У Берасці выдадзены рэкламны, легалізаваны травеньскі нумар незалежнай газеты беларускага Палесся «Шлях». Але гэта газета выходзіла «падпольна» яшчэ раней, у 1989—90 гадах. Наклады былі невялікія, аднак усе яны хутка разыходзіліся, бо былі сапраўдным глытком свежага паветра ў атмасферы хлусні і цынізму афіцыйнай прэсы. Газета «Шлях» давала інфармацыю, якая была не даспадобы тагачасным уладам, яе распаўсюджвальнікаў затрымлівала міліцыя, складалі пратаколы. Тады, у сакавіку 1989 года, быў зроблены першы крок на доўгім і цяжкім шляху да пабудовы дэмакратыі і адраджэння нашай Бацькаўшчыны.

Заснавальнікамі газеты з'яўляюцца: Берасцейская філія Беларускага рэспубліканскага фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Льва Сапегі; Берасцейская рэгіянальная рада Беларускага народнага фронту «Адраджэнне»; Берасцейская гарадская філія Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады; Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі; грамадскае аб'яднанне «Стары горад».

Актыўны ўдзел у рэкламным нумары «Шляху» прынялі таксама берасцейскія літаратары Анатоль Дэбіш і Мікола Пракаповіч. Апошні змясціў верш «Малітва адчаю», прысвечаны гэтай падзеі, які заканчваецца наступнымі радкамі:

*...Прыйшоў... І той жа край зьнямелы,*
*І на плячах адчаю цяжкі груз...*
*Яшчэ не вернік, я шапчу няўмела*
*Малітву да цябе. За Беларусь.*

Рэдактарам газеты «Шлях» з'яўляецца таксама пісьменнік-берасцеец Алесь Касько.

**В.БАРБОЛІН.**

# АБАРАНІЦЕ НАШЫ ПРАВЫ

*Міністру замежных спраў Беларусі сп. Краўчанку П. К.*

Шаноўны спадар Міністр!

Звяртаемся да Вас з даўно наспелай просьбай аб дапамозе, аб абароне правоў беларускамоўнага насельніцтва ў Расійскай Федэрацыі. Шмат хто з нас жыве у Расіі 20 і болей гадоў. Кожны, як можа, імкнецца падтрымліваць сувязь з Бацькаўшчынай, хто шляхам наведвання родных, а ў каго родных няма, дык той праз беларускія газеты і часопісы, праз беларускае радыё. Але год ад году наша становішча толькі пагаршаецца. Узніклі складанасці з падпіскай, якая то зусім забараняецца, то падаецца вельмі абмежаванай, дзе нельга знайсці менавіта тыя часопісы і газеты, на якія хочаш падпісацца. (Так, у наступным паўгоддзі няма:«Свабоды», «Спадчыны», «Полымя», «Беларускага гістарычнага часопіса», «Беларускай мінуўшчыны», «Звязды».) Дзякуй Богу, што пакінулі пакуль што «Наша слова» і «ЛіМ». Хто падбірае нам інфармацыйны «асартымент»? Ад каго залежыць тое, што на Беларусі маскоўскія газеты падпісчыкі атрымліваюць дзень у дзень, а ў Маскве беларускія (калі наогул атрымліваем) са спазненнем на 2 тыдні і болей? Як быццам адлегласць ад Беларусі да Масквы большая, чым наадварот.

На Беларусі можна свабодна слухаць расійскія перадачы, а ў Расіі інфармацыйная прастора беларускага радыё на кароткіх хвалях настолькі абмежаваная, што і навін не пачуць.

Рускамоўныя жыхары Беларусі маюць магчымасць глядзець тры расійскія праграмы тэлебачання, а беларускамоўныя жыхары Расіі — ніводнай.

Мы пакуль не патрабуем увядзення ў Расіі беларускай мовы як другой дзяржаўнай, як спрабавалі зрабіць рускамоўныя на Беларусі.

Мы не патрабуем трох каналаў беларускага TV у Расіі, але хоць пару гадзін на суткі хацелася б.

Мы не патрабуем, каб у кожным мікраёне Масквы была дзяржаўная беларуская школа, як у рускіх на Беларусі, але каб хоць адна цалкам беларуская школа на ўсю Маскву ў цэнтры горада. Каб хоць адзін будынак на ўсю Маскву і Расію для беларускага культурнага цэнтра.

Мы дагэтуль збіраемся на ўласных кватэрах.

Не думайце, мы не сядзім склаўшы рукі, не чакаем, пакуль расійскі ўрад сам здагадаецца нам дапамагчы. На працягу 6 год мы марна звярталіся ў адпаведныя расійскія ўстановы за дапамогай у адкрыцці беларускага культурнага цэнтра, нарэшце накіравалі ліст са шматлікімі подпісамі маскоўскіх беларусаў да Прэзідэнта Расіі і таксама атрымалі адмоўны адказ. (Копію адказа на зварот да Прэзідэнта накіроўваем да Вашага ведама.) У гэтым лісце ёсць парада звярнуцца за выдзяленнем памяшкання пад культурны цэнтр і школу да Пасольства Беларусі ў Расіі, якому для гэтай мэты згодна з рашэннем Масгарвыканкама N 2022 ад 23.09.88г. ужо, як быццам, былі перададзены некалькі будынкаў у двары Пасольства. Але ж зараз там размешчаны, невядома на якіх умовах і з чыйго дазволу, нейкія камерцыйныя структуры. Мы звярталіся, і неаднойчы, за дапамогай у Пасольства Беларусі — на жаль, там не звяртаюць увагі на патрэбы дыяспары, адмовіліся вылучыць памяшканне для Таварыства беларускай культуры і нядзельнай школы ў будынках, якія належаць Пасольству (нават нягледзячы на Вашу аб тым просьбу ў лісце МЗС да Пасольства N 03/5747 ад 30.07.93). Пасольства лічыць нават непатрэбным інфармаваць нас аб атрымліваемых па адрасу Таварыства афіцыйных лістах і паведамленнях для дыяспары. У гэтым сэнсе ўсе праграмы працы з дыяспарай для Пасольства пакуль што пусты гук.

Мы не ведаем, можа ёсць на Беларусі беларусы, якія гатовы адмовіцца ад роднай мовы, звычаяў, якія забыліся на сваіх бацькоў і продкаў і хочуць, каб дзеці іх выраслі «Иванами родства не помнящими», але мы не хочам. Свядомыя маскоўскія беларусы не хочуць, каб іх дзеці зрусіфікаваліся, хочуць, каб яны выраслі беларусамі і, калі дапаможа Бог, вярнуліся на зямлю бацькоў.

Абараніце правы Вашых беларускамоўных землякоў, шаноўны спадар Міністр! Нам не лёгка тут жыць. Мы не патрабуем так шмат, як рускамоўныя жыхары на Беларусі: мы цудоўна размаўляем па-расійску, не прымушаем рускіх размаўляць з намі на нашай мове, мы не патрабуем яе дзяржаўнасці, мы проста хочам, каб нам і нашым дзецям далі магчымасць застацца беларусамі. Каб карацей сфармуляваць, дзеля гэтага нам патрэбна наступнае:

1. Беларускі культурны цэнтр і гімназія пры ім.
2. Неабмежаваная падпіска (з гарантаванай дастаўкай, зразумела) на беларускі друк.
3. Пашырэнне інфармацыйнай прасторы.

Дапамажыце нам, абараніце нашы правы! Мы на Вас спадзяёмся і разлічваем.

Ад імя маскоўскіх беларусаў Рада Таварыства.

Кручкова, Бука, Мішчанка, Папоў, Рыжкоўская, Драянкоў, Доўбік, Лех, Цагельнікаў, Бабарэка і інш.

***Як паведамлялася ўжо ў «Нашым слове» і іншых газетах, Другі Ватыканскі Сабор прызнаў магчымым перавод богаслужэнняў на нацыянальныя мовы. Нарэшце гэты дазвол скарысталі і беларусы: Апостальская Сталіца зацвердзіла пераклады а.Аляксандра Надсана, Апостальскага Візітатара для беларусаў-каталікоў у замежжы і абавязала Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву паслугоўвацца дадзенымі тэкстамі. Усё гэта, безумоўна, сведчыць аб той любові і згодзе, з якімі Каталіцкая Царква ставіцца да нацыянальных традыцый і патрэб асобных народаў, у тым ліку і беларускага.***

***Уніяцкая Царква заўсёды лічыла сябе спадчыннікам нацыянальных і культурных традыцый, што бяруць свой пачатак ад святых Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага. Вось і цяпер грэка-каталікі яшчэ раз пацвярджаюць сваю вернасць Богу і Бацькаўшчыне. Айцец Аляксандр падараваў нашаму народу магчымасць маліцца на роднай мове. Кожны беларус сёння мусіць выказаць шчырую падзяку гэтаму нястомнаму працаўніку на ніве Божай.***

***Мяркую, чытачам «Нашага слова» будзе карысна азнаёміцца з Пастырскім лістом візітатара Святой Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў для грэка-каталікоў на Беларусі, дасланы з гэтай гістарычнай нагоды.***

***Ігар ІВАНОЎ,***
***сябра рэдакцыі часопіса «Унія».***

# МАЛІЦЦА НА РОДНАЙ МОВЕ — НАЙЛЕПЕЙ ДАГАДЗІЦЬ БОГУ

***Вялебныя і Пачэсныя Сьвятары,***
***Улюблёныя ў Хрысце Дыяканы і Манахі,***
***Дарагія Семінарысты,***
***Усе Дарагія Вернікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы!***
***Нябёсы абвяшчаюць славу Божую,***
***аб творах рук Ягоных расказвае небасхіл;***
***Па ўсёй зямлі разышоўся голас іх,***
***і аж да канцоў свету словы іх. (Пс 18,2;5)***

Гэтымі словамі святая Царква ва ўрачыстасць Святой Тройцы выказвае радасць з Зыходу Святога Духа, каторы даў Апосталам дар абвяшчэння Евангелля ў розных мовах. Бо Святы Дух будуе каталіцкасць сваёй Царквы праз багацтвы культураў і моваў паасобных народаў.

Урачыстасць Зыходу Святога Духа ў 1994 годзе гасподнім стала днём асаблівай радасці для Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы: зацверджана праз Кангрэгацыю богаслужэбных тэкстаў як роўная з іншымі сучасная беларуская мова.

Як забавязаны праз Кангрэгацыю Усходніх Цэркваў, каб дбаць аб належным выкананні службы Божай у Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве, гэтым аб'яўляю наступную Дэкларацыю, выданую ў Богазбаўляемым горадзе Рыме.

Рашэннем Святой Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў, выданым у дню 25 сакавіка 1994 (прат. N 13/91), зацверджана беларускамоўная версія тэкстаў св.Літургій, св. Таінстваў, абрадаў пахавання памерлых, а таксама службаў Часаслова паводле перакладу і выдання, падрыхтаванага праз вялебнага айца Аляксандра Надсана, Беларускай каталіцкай Місіі ў Лёндане. Гэта версія можа быць ужывана на Беларусі і ў дыяспары.

Згодна з практыкай Апостальскай Сталіцы зацвярджэнне ўдзелена на тэрмін пяці гадоў.

Ніжэйшым абвяшчаю, што ў духу паслушэнства Апостальскай Сталіцы ў служэнні Боскай Літургіі, св. Таінстваў, абрадаў пахавання памерлых, а таксама ў службах Часаслова святары і вернікі Грэка-Каталіцкай Царквы на Беларусі забавязаны карыстацца гэтай, зацверджанай Апостальскай Сталіцай, версіяй богаслужэбных тэкстаў. (Гэта не выключае, у душпастырска абаснованых выпадках, карыстання тэкстамі ў царкоўнаславянскай мове, каб падкрэсліць неразрыўнасць нашай традыцыі і брацкую, літургічную сувязь з іншымі Цэрквамі візантыйска-славянскага абраду).

Душпастарскія рацыі вымагаюць, каб у рамках катэхізацыі, а таксама ў прыватнай малітве святары і верныя ўжывалі зацверджанага беларускага тэксту Малітвы Господняй (Ойча наш) і Вызнання Веры (Веру ў адзінага Бога).

Хай будзе падзяка Богу за дар зацвярджэння тэкстаў малітваў у роднай мове!

Дэкларацыя разам з копіяй ліста Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў высланая да кожнай грэка-каталіцкай суполкі на Беларусі і там павінна быць старанна захаваная ў архіве.

Адначасова ў паасобных суполках можна збіраць усялякія прапановы, якія датычаць удасканалення перакладу. Гэтыя прапановы да 31 снежня 1994 года трэба перадаць да айца дэкана Яна Матусевіча ў Менску, які на пачатку студзеня 1995 года павінен іх пераслаць да Святой Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў.

Дарагія Браты і Сёстры! Зацвярджэнне Апостальскай Сталіцай богаслужэбных тэкстаў візантыйска-славянскага абраду ў беларускай мове стала ўвянчаннем шматгадовых перакладчыцкіх і арганізацыйных высілкаў вялікай колькасці выдатных сыноў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Тут належыць узгадаць заслугі памёрлых святой памяці архімандрыта Льва Гарошкі, біскупа Чэслава Сіповіча, біскупа Уладзіміра Тарасэвіча з Чыкага. Урэшце належыць узгадаць вытрывалую працу вельмі паважанага айца Аляксандра Надсана з Лёндана.

Сёння прагнем з удзячнасцю ўзгадаць перад Госпадам усіх жывых і памёрлых святароў і свецкіх людзей, якія працавалі і працуюць як над перакладамі богаслужэбных тэкстаў, так і над штодзённай інфармацыяй з жыцця Сусветнай Царквы ў беларускай мове на хвалях Ватыканскага Радыё. У нашай малітве памятайма вось жа аб айцу Канстанціну Маскаліку, аб айцу Робэрце Тамушанскім, аб спадару Яне Мойсіку.

Не забывайце таксама, Браты і Сёстры, аб сваіх душпастырах на Беларусі, якія штодня нясуць вам пастырскую паслугу ў роднай мове — аб айцу дэкане Яне, айцах Віктары, Казіміры і Валерыю.

Блаславенства Апостальскай Сталіцы для малітваў у беларускай мове хай заахвоціць усіх нас да тым больш рэўнаснага удзелу ў св. Літургіі ў кожную нядзелю і свята.

Таксама прыкладзем намаганні, каб нашыя набажэнствы правіліся прыгожа і пабожна.

За ўсялякую працу, зробленую да гэтага часу ў гэтай галіне, прагну падзякаваць дыяканам, чытальнікам, служкам, а таксама харыстам і групам спевакоў з іх рэгентамі. Заахвочваю да далейшых плацавітых высілкаў на гэтай ніве.

Прагну таксама заахвоціць усе суполкі да арганізавання сыстэматычных катэхэзаў для дзяцей, моладзі, дарослых.

Дарагія Браты і Сёстры, па-за нашай увагай не павінен застацца той факт, што зацвярджэнне Апостальскай Сталіцай богаслужэбных тэкстаў у беларускай мове было выдана ў дню 25 сакавіка.

У царкоўным календары гэты дзень Дабравешчання Господняга —дзень, у якім чалавецтву была прагалошана Добрая Навіна аб спаўненні Божага плана збаўлення ў Ісусе Хрысце. А ў нацыянальным календары дзень 25 сакавіка ёсць днём абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Гэты дзень павінен адгэтуль застацца ў памяці грэка-каталікоў на Беларусі як дзень, у якім Святая Сусветная Царква падарыла нам зацвярджэнне богаслужэбных тэкстаў у перакладзе на беларускую мову, а праз гэта ўнесла ўклад у развіццё нашай духоўнай культуры і ўмацаванне нашай нацыянальнай тоеснасці.

За гэты вялікі дар мы павінны быць удзячны Святому Айцу — Яго Святасці Яну Паўлу Другому, прэфекту Святой Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў — Яго эмінэнцыі кардыналу Акільле Сільвестрыні і сакратару гэтай кангрэгацыі — Яго экселенцыі Кір Міраславу Марусыну.

У сувязі з гэтым пастанаўляю, каб другі дзень святаў Зыходу Святога Духа — панядзелак 23 траўня 1994 года быў у нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве на Беларусі днём падзячнай малітвы ў інтэнцыі Святога Айца Яго Святасці Яна Паўла Другога, Яго эмінэнцыі кардынала Акільле Сільвестрыні і ўсёй Святой Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў.

У панядзелак 23 траўня святары, дыяканы, манахі і сэмінарысты павінны прачытаць адну з кананічных гадзін Часаслова ў інтэнцыі Святога Айца і Святой Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў, а ўсе верныя павінны ў духу ўдзячнасці памаліцца ў гэтай інтэнцыі, ці то ў рамках св. Літургіі (там, дзе гэта магчыма), ці таксама, прынамсі, у індывідуальнай малітве.

А ў нядзелю 29 траўня да св. Літургіі трэба далучыць падзячную інтэнцыю. Можна таксама пасля св. Літургіі адслужыць (у скарочанай форме) «Малебен падзякі» альбо частку Акафіста Найсвяцейшай Багародзіцы.

***І хай будуць міласці вялікага Бога і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста з усімі вамі!***

**а. Сяргей ГАЕК,**
**візытатар Святой Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў для грэка-каталікоў на Беларусі.**

Тэкст нязначна скарочаны і друкуецца згодна сучаснаму беларускаму правапісу.

## *Беларуская мова — мова навукі*

***Шаноўныя чытачы!***

*На Рэспубліканскай навукова-метадычнай канферэнцыі «Актуальныя праблемы беларускамоўнага выкладання тэхнічных і прыродазнаўчых дысцыплін у ВНУ» (1993г.) і на сёлетняй Першай нацыянальнай канферэнцыі «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі» выявіўся стан беларусізацыі выкладання ў вышэйшых навучальных установах Беларусі. Ужо не адзінкі, а ці не больш за сто выкладчыкаў чытаюць лекцыі на беларускай мове і тысячы студэнтаў на гэтай жа мове пішуць канспекты ды здаюць залікі і экзамены.*

*Асабліва цешыць, што завадатарамі сталі матэматыкі: выкладчыкі Беларускай політэхнічнай акадэміі, Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, навуковыя супрацоўнікі Інстытута матэматыкі АН Беларусі. Яны годна працягваюць шматвяковыя (ад Сімяона Полацкага!) традыцыі матэматычнай адукацыі нашага народа. У іх даробку «Русско-белорусский математический словарь» пад рэдакцыяй доктара фізіка-матэматычных навук, прафесара Я. В. Радыно (Менск, 1993), «Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ» калектыву аўтараў Беларускай політэхнічнай акадэміі: Тамара Сухая, Раіса Еўдакіменка, Васіль Траццякевіч, Ніна Гудзень (Менск, 1993) і падрыхтаваная да выдання «Матэматычная энцыклапедыя».*

*Шмат руплiўцаў беларушчыны і сярод вучоных, выкладчыкаў іншых прыродазнаўчых навук, сярод якіх і сябры ТБМ імя Ф. Скарыны.*

*Аднак праблем яшчэ хапае. Асабліва са складаннем і выданнем слоўнікаў спецыяльнай тэрміналогіі. Таму мы палічылі сваім абавязкам дапамагчы руплiўцам беларушчыны і вырашылі пачаць у нашай газеце новы раздзел: «Беларуская мова — мова навукі». Спадзяёмся, што тут будуць абмяркоўвацца праблемы тэрмінатворчасці. Мы будзем запрашаць на гутарку беларускамоўных выкладчыкаў і вучоных. З іх дапамогай газета будзе знаёміць чытачоў са старонкамі гісторыі беларускай навукі, са славутымі беларусамі, з гісторыяй паходжання нашых навуковых і тэхнічных тэрмінаў, народных тэрмінаў, мы будзем старацца расказваць, як вырашаюць падобныя праблемы нашы суседзі. Мяркуем, што нам удасца надрукаваць тут старонкі згаданай «Матэматычнай энцыклапедыі», а ў недалёкім будучым таксама і іншых падобных выданняў.*

*Запрашаем чытачоў стаць нашымі аўтарамі. І будзем удзячны за прапановы і крытычны агляд матэрыялаў раздзела.*

З. СІЦЬКО.

***НАЗОЎНІЦТВА***

*Таццяна ПІЛІПОВІЧ*
*Сяргей ЧАРАНКЕВІЧ*

# СЛОВАЎТВАРАЛЬНЫЯ І СЕМАНТЫЧНЫЯ АСПЕКТЫ КАНСТРУЯВАННЯ НАВУКОВА-ТЭРМІНАЛАГІЧНАЙ ЛЕКСІКІ

За апошнія гады беларуская мова шмат страціла з свае самабытнасці, адметнасці, у выніку чаго і навуковая тэрміналогія, як можна цяпер канстатаваць, мае пераважна расійскамоўную аснову. Гэта прывяло да таго, што нават аўтары тэрміналагічных слоўнікаў, якія ў апошнія гады ўсё часцей выходзяць з друку, часта стаяць на розных, часам зусім процілеглых пазіцыях. Адны з іх прытрымліваюцца думкі пра фармаванне тэрміналогіі на глебе нацыянальнай мовы, другія —прымаюць расійска-беларускую інтэрферэнцыю ў тэрміналогіі. У нашай мове ёсць усе аб'ектыўныя ўмовы для існавання нацыянальнай тэрмінасістэмы, сярод якіх у першую чаргу трэба назваць унутраную логіку моўнага развіцця і наяўнасць граматычных сродкаў. На этапе фармавання сучаснай беларускамоўнай тэрміналогіі неабходна ўлічваць:

— здабыткі тэрміналогіі 20-х — 30-х гадоў;

— магчымасць увядзення ў карыстанне наватвораў, утвораных паводле мадэляў, заканамерных для беларускай мовы;

— выкарыстанне пры неабходнасці агульнапрынятых міжнародных тэрмінаадзінак;

— абгрунтаваную тэрмінатворчасць аўтараў слоўнікаў, выдадзеных апошнім часам. Прыкладам такога стаўлення да фармавання тэрміналагічных лексем на сучасным этапе развіцця мовы з'яўляецца «Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ». Яго аўтары выказалі свае меркаванні па некаторых найбольш спрэчных пытаннях словаўтваральнага і лексіка-семантычнага аспектаў тэрміналогіі.

1. У беларускай тэрмінасістэме, напрыклад, утварэнні з суфіксам -цель- не маюць пашырэння, бо гэта словаўтваральная мадэль непрадуктыўная ў нашай мове. Ёй адпавядаюць лексемы з суфіксам *-нік-:* замедлитель — *запавольнік,* излучатель —*выпраменьвальнік,* множитель — *множнік.* Але ў нашых перакладных слоўніках часам сустракаюцца (на расійскі ўзор) тэрмінаўтварэнні з суфіксам -цель-. Параўнайце, напрыклад, падачу некаторых тэрмінаў у апошнім выданні «Русско-белорусского словаря» (1994г.): отделитель -- аддзяліцель, проявитель -- праявіцель.

2. У перакладных слоўніках 80-х гадоў зафіксаваныя шматлікія дзеяслоўныя формы з іншамоўным элементам -ір- (-ыр-). Аўтары згодныя з меркаваннямі навукоўцаў (П.Сцяцко і І.Карпуць), што лексемы з гэтым суфіксальным элементам вельмі распаўсюджаныя ў расійскай мове. І тыя ўтварэнні, што зафіксаваныя ў перакладных слоўніках, трапілі ў беларускую мову адтуль. Але яны, як і іншыя моўныя адзінкі, павінны падпарадкоўвацца законам беларускай мовы. Як паказваюць даследаванні, іншамоўныя дзеяслоўныя асновы ў беларускай мове афармляюцца з дапамогай суфікса *-ава-* (*-ява-*), а не -ірава- (-ырава-). Параўнайце: *акумуляванне* — аккумулирование, *канцэнтраванне* —концентрирование, генераванне — генерирование і г.д.

3. Вядома, што функцыянальна значныя тэрміналагічныя паняцці любой тэрмінасістэмы выражаюцца не толькі назоўнікамі і дзеясловамі, але, як паказаў У.Люшчык, і прыметнікамі і дзеепрыметнікамі. У беларускамоўных тэкстах гэтыя ўтварэнні часам афармляюцца суфіксамі -уч-, -юч-, -ем-, -ім- па аналогіі з суфіксамі -уш-, -юш-, -им-, -ем-, прадуктыўнымі ў расійскай мове, але не ўжывальнымі ў нашай. Іх ролю выконваюць назвы (лексемы, найменні) з суфіксамі *-н-, -ев-, -льн-, -оўн-*. Гэтыя суфіксы далучаюцца да асновы назоўніка , ад якога ўтвараюцца названыя лексемы, у залежнасці ад функцый, якія выконваюць дзеепрыметнікі, напрыклад, движущий — *рухальны* (функцыя якасці), поглощающий — *паглынальны* (функцыя якасці), выпрямляющий — *выпрастоўны* (функцыя аб'екта наймення), результирующий — *вынікоўны* (функцыя аб'екта наймення).

Памылкай шмат якіх аўтараў пры перакладзе тэрмінаў з'яўляецца асобны падыход да кожнага слова. На нашу думку, для дакладнага фармавання тэрмінаў, што маюць аналагі ў расійскай мове, трэба выкарыстоўваць гнездавы метад, які, акрамя словаўтваральных працэсаў, дазваляе ўлічваць лексіка-семантычную і функцыянальную насычанасць тэрмінаў. У якасці ілюстрацыі разгледзім наступныя прыклады:

| | |
|---|---|
| вращение | заварот |
| вращать | аварочваць |
| вращаемый | зваротны |
| вращательный | аварачальны |
| вращающий | аварочвальны |
| вращающийся | аваротлівы |
| возбуждать | узбуджаць |
| возбуждаемость | узбуджальнасць |
| возбуждаемый | узбуджальны |
| возбуждающий | узбуджвальны |
| возбуждающийся | узбудны |
| возбуждённый | узбуджаны |

4. Адраджэнне беларускай мовы, яе ўнармаванне вымагае ад даследчыкаў крытычнага стаўлення да матэрыялаў беларускай граматыкі і слоўнікаў, бо ў іх шмат менавіта неўнармаванага. Гэта датычыць і некаторых граматычных формаў. Як вядома, назоўнікі ўсіх трох скланенняў у формах множнага ліку маюць у сучаснай беларускай мове аднолькавыя канчаткі. Праўда, формы роднага склону яшчэ захоўваюць некаторыя адметнасці па скланеннях. Але і тут паступова ідзе выраўноўванне за кошт абагульнення канчаткаў роднага склону множнага ліку ў назоўнікаў: пад націскам -оў- (-еў-), не пад націскам -аў-(-яў-). Блытаніна адбываецца таму, што сучасныя граматыкі і слоўнікі па-рознаму падаюць гэтыя формы: асаблівасць —асаблівасцей або асаблівасцяў, цяжкасць — цяжкасцей або цяжкасцяў.

Для тых, хто займаецца практычнай распрацоўкай навуковай тэрміналогіі, застаецца нявырашаным шэраг пытанняў, таму мы лічым неабходным выкарыстоўваць наступныя падыходы пры стварэнні тэрмінаадзінак:

а) выкарыстоўваць ненаціскное *-ар-* (замест -ер-, -эр-) у канцы запазычаных слоўтэрмінаў тыпу *прынтар, адаптар;*

б) не ўжываць словаўтваральны элемент -ар- (-яр-) у прыметніках, якія стасуюцца з назоўнікамі іншамоўнага паходжання, напрыклад, трэба пісаць *малекульны* замест малекулярны, *карпускульны* замест карпускулярны;

в) перадаваць гук v (тэта) у тэрмінах грэцкага паходжання: праз [т] *лагарытм, арытметыка, апатэма, алгарытм;*

г) ведаючы, што варыянтнасць у тэрміналогіі — з'ява непажаданая, мы пакідаем сінанімічныя формы тэрмінаў, якія патрабуюць вызначэння, толькі ў асобных выпадках, напрыклад компьютер — *камп'ютар* і *кампутар,* аккумуляция — акумуляцыя і *акумуляванне,* центробежный —*адцэнтравы* і *цэнтрабежны.*

***Virtus atque doctrina***

*Тэрміналагічная камісія ТБМ імя Ф.Скарыны мае шмат шчырых, адданых сяброў, аб'яднаных любоўю да Бацькаўшчыны, матчынай мовы і навукі. Сярод іх і дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі кандыдат фізіка-матэматычных навук Людміла Шлома. Ужо некалькі гадоў яна выкладае вышэйшую матэматыку на беларускай мове.*

# Людміла ШЛОМА: Наша мова вельмі добра пасуе да матэматычнай мовы

*— Спадарыня Людміла, як Вы заахвоціліся да беларушчыны?*

— Я была заахвочана ўсё сваё жыццё. З самага нараджэння і да сканчэння школы я існавала выключна ў атмасферы беларускага слова. Мае бацькі былі настаўнікамі сельскай школы: мама выкладала беларускую мову і літаратуру, а тата — англійскую мову. У сям'і заўсёды гучала наша родная мова. А якая цудоўная яна была ў маёй маці! Нават у тыя пачварныя гады, калі лічылі неадукаваным таго чалавека, хто не размаўляў па-руску, яна ніколі і нідзе ў межах Беларусі не пераходзіла на рускую мову. Так што выразы «з малаком маці», «матчына мова» маюць да мяне самае непасрэднае дачыненне. Праўда, любоў да роднага слова закладзена ва мне генетычна, калі можна так сказаць, і па лініі бацькі. Калі ў 1947 годзе яго, студэнта Гродзенскага педінстытута, арыштавалі, каб адарваць ад Радзімы на 8 доўгіх гадоў, то ў шэрагу абвінавачванняў было і тое, што ён з захапленнем чытаў студэнтам у інтэрнаце «Пагоню» М.Багдановіча...

Пасля заканчэння беларускай школы ў Нясвіжскім раёне я паступіла ў Менскі педінстытут. Вось тут мая душа і трапіла ў ненатуральны стан, бо на лекцыях у інстытуце не было чуваць ні аднаго беларускага слова. Цяпер, калі я бываю ў гэтай вышэйшай установе, якая называецца ўжо Беларускі педагагічны універсітэт, маё сэрца перапаўняецца радасцю. Многія сотні юнакоў і дзяўчат маюць магчымасць навучацца на роднай мове, чаго наша пакаленне было пазбаўлена.

*—А як Вы пачыналі выкладанне па-беларуску ў сябе ў Менскім радыётэхнічным інстытуце?*

— Сапраўды, тады ён называўся радыётэхнічным, а пачынаць давялося з візіту да рэктара В.Ільіна, бо гэта звязвалася з яго дазволам. Тут нам усім шанцуе, бо нашу ўстанову ўзначальвае сапраўды інтэлігентны чалавек, пераконваць якога было не патрэбна. Адразу былі створаны ўсе неабходныя ўмовы, і ў 1992 годзе ўпершыню для 47 студэнтаў МРТІ на лекцыях па матэматыцы і фізіцы загучала наша роднае слова. Разам са мною пачалі выкладаць па-беларуску дацэнты А.Болсун і А.Крачкоўскі. А ў гэтым навучальным годзе беларускамоўныя плыні былі арганізаваны ўжо на трох факультэтах з пяці. Адразу хачу сканцэнтраваць увагу на тым, што якраз у такой тэхнічнай навучальнай установе, як наша, бадай, найбольш цяжка было пераходзіць да выкладання па-беларуску. Але, як паказвае вопыт, можна і можна паспяхова. І больш таго, надзвычай неабходна, бо мы рыхтуем кадры інтэлігенцыі Рэспублікі Беларусь, якім наканавана быць носьбітамі прагрэсу нашай дзяржавы. Апошняе ж немагчыма без сфармаванай нацыянальнай самасвядомасці.

*— А ў чым канкрэтна тыя цяжкасці, пра якія Вы ўспомнілі?*

— Найперш, гэта агульныя для ўсіх ВНУ: адсутнасць падручнікаў, а таксама ўсталяванай навуковай тэрміналогіі, адсутнасць вопыту выкладання па-беларуску. А таксама спецыфічныя для нашай тэхнічнай: да нас традыцыйна паступала невялікая колькасць выпускнікоў сельскіх школ з беларускай мовай навучання, прыкладна 4—5 працэнтаў; сярод выкладчыкаў тэхнічных спецыяльнасцей больш пашырана няведанне беларускай мовы. Апошняе перашкаджае рэалізацыі непарыўнага працэсу беларускамоўнага выкладання.

*— Вы не назвалі ў шэрагу цяжкасцей нежаданне студэнтаў вучыцца па-беларуску. Гэты аргумент даводзіцца калі-нікалі чуць. Ці праўда гэта?*

— Я на гэта адказала б, што гэта аргумент тых выкладчыкаў, хто сам не хоча выкладаць з-за сваёй ляноты ці агрэсіўнага стаўлення да беларушчыны. Студэнты ўспрымаюць усё нармальна, даволі хутка адаптуюцца, усе пішуць канспекты на беларускай мове і адказваюць на экзамене па-беларуску. Прычым зніжэння паспяховасці ў навучанні не адбываецца. **А вось сур'ёзнае стаўленне да лекцый назіраецца. Разам з гэтым у лектара даволі хутка ўзнікае надзвычай добры эмацыйны кантакт з аўдыторыяй. А гэта ўсё і ёсць аснова павышэння эфектыўнасці навучання.** Між іншым, прыемна адзначыць той станоўчы факт, што абітурыенты 1993/94 навучальнага года выразна адрозніваюцца ад сваіх папярэднікаў большай гатоўнасцю да скарыстання беларускай мовы ў навучанні і лепшай моўнай падрыхтоўкай. Гэта азначае, што наша сярэдняя школа набірае моц у справе адраджэння беларускасці.

*— У многіх ВНУ беларусізацыя пачыналася менавіта матэматыкамі. А ці быў вопыт такога выкладання ў 20—30-х гадах?*

— Так, мы ўсе пачыналі не на пустым месцы. Беларускую матэматычную тэрміналогію пачалі ствараць у 20-х гадах. Тады былі выдадзены «Беларуская навуковая тэрміналогія». Выпуск 1. Элементарная матэматыка (Менск, 1922); Слоўнік геаметрычных і трыганаметрычных тэрмінаў і сказаў (Коўна, 1923); Слоўнік матэматычнае тэрміналогіі (Менск, 1927). А энтузіястаў беларусізацыі было шмат. Асабліва актыўна працаваў А.Круталевіч. Ён падрыхтаваў і выдаў шэраг змястоўных курсаў матэматычных дысцыплін для ВНУ на беларускай мове. У 30-х гадах гэты слаўны сын беларускага народа быў знішчаны сталінскім рэжымам.

*— У той час, у 20-я гады, на Беларусь выкладаць у новых навучальных установах прыязджалі з іншых краін. Ці былі сярод іх матэматыкі?*

— Былі, і некаторыя шчыра хацелі дапамагчы нашай маладой рэспубліцы, а таму, як сапраўдныя навукоўцы, хутка авалодвалі беларускай мовай і пачыналі выкладаць па-беларуску. У 1919 годзе з Маскоўскага універсітэта ў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію, што ў Магілёўскай вобласці, пераехаў прафесар І.Багаяўленскі. Курс яго лекцый з аналітычнай геаметрыі, напісаны на дасканалай беларускай мове, выдалі ўжо пасля смерці прафесара ягоныя вучні (Багаяўленскі І. Аналітычная геаметрыя. Горкі, 1932). Дзесяццю гадамі пазней з Аўстрыі да нас пераехаў Ц.Бурстын і ўзначаліў кафедру матэматыкі ва універсітэце. Захаваўся яго падручнік «Курс дыферэнцыяльнай геаметрыі» (Менск, 1934). Ён жа падзяліў лёс нашай нацыянальнай інтэлігенцыі — быў закатаваны ў Менску ў 1938 годзе. Апошняе яго матэматычнае выданне на беларускай мове для ВНУ датавана 1936 годам.

Дзе-нідзе выкладанне матэматыкі на беларускай мове яшчэ вялося да пачатку вайны. Але пасля, на працягу 50 гадоў, на лекцыях па матэматыцы не гучала наша слова, не выдадзена ніводнага беларускага падручніка. Закладвалі ў галаву, што наша мова не прыдатная для вывучэння дакладных дысцыплін.

*— Я ведаю, што Вы ў складзе аўтарскага калектыву, які рыхтуе да выдання «Курс вышэйшай матэматыкі». Калі нашы ВНУ атрымаюць гэты падручнік?*

— Сапраўды, праца над гэтым выданнем доўжыцца ўжо два гады. У складзе аўтараў доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар В.Русак, ст. выкладчык В.Ахраменка (яны з БДУ) і мой калега з БДУІР кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт А.Крачкоўскі. Безумоўна, праца вельмі складаная, бо гэта першы сістэматычны курс вышэйшай матэматыкі, які будзе напісаны на беларускай мове. Выданне падручніка плануецца ажыццявіць у трох кнігах, а прызначаны ён для выкладання на тэхнічных і прыродазнаўчых факультэтах ВНУ. Першая кніга павінна выйсці з друку ў выдавецтве «Вышэйшая школа» ў канцы 1994 года, а другая запланавана на 1995 год. Мы палічылі неабходным пачаць гэтае выданне прысвячэннем памяці ўсіх тых матэматыкаў-педагогаў, хто стаяў на пачатку беларусізацыі вышэйшай матэматычнай адукацыі ў 20—30-х гадах нашага стагоддзя, і спадзяёмся, што яно будзе спрыяць Адраджэнню.

А на заканчэнне хачу яшчэ сказаць, што я вельмі шчаслівая, бо ў поўнай меры магу вярнуцца да сваіх каранёў і магу аддаць усе сілы сваёй Роднай Зямлі.

Гутарыў З.СІЦЬКО.



**НАРОДНЫЯ ТАЛЕНТЫ**

Беларускія, украінскія і малдаўскія слухачы добра прымаюць ансамбль «Капыльскія дудары», адным з заснавальнікаў якога з'яўляецца кампазітар Іван Кузняцоў. З ансамблем супрацоўнічаюць вядомыя кампазітары Уладзімір Кур'ян і Віктар Войцік. А інструменты для гэтага самадзейнага калектыву зрабілі майстар Уладзімір Пузыня і канцэртмайстар ансамбля Аляксандр Еўдакімаў. Зараз «Капыльскія дудары» рыхтуюцца да паездкі ў Францыю.

**На здымку** (злева направа): мастацкі кіраўнік ансамбля Валянцін Мотус, кампазітар Уладзімір Кур'ян і майстар па вырабу народных інструментаў Уладзімір Пузыня.

**УВАГА!**

## Нацыянальная школа: гісторыя, сучаснасць, перспектывы

**3—4 красавіка 1995 г.** у Брэсцкім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А.С.Пушкіна адбудзецца Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Нацыянальная школа: гісторыя, сучаснасць, перспектывы».

Плануецца абмеркаванне наступных пытанняў:

1) Філасофія адукацыі і нацыянальная ідэя: пошукі ўласнай парадыгмы.
2) Гісторыя беларускай нацыянальнай школы.
3) Сучасны стан нацыянальнай школы беларусаў і перспектывы яе развіцця.
4) Актуальныя пытанні беларускамоўнага выкладання гуманітарных і прыродазнаўчых дысцыплін.
5) Праблемы стварэння беларускамоўнага асяроддзя ў навучальных установах.
6) Месца беларусазнаўства ў навучальным працэсе, ва ўмацаванні нацыянальнай самасвядомасці і выхаванні культуры міжнацыянальных адносін.
7) Пытанні адукацыі этнічных меншасцей Беларусі.
8) Шляхі задавальнення адукацыйных патрэб беларускай дыяспары.

Да канферэнцыі плануецца выданне зборніка матэрыялаў. Тэзісы дакладаў аб'ёмам 1—4 старонкі машынапіснага тэксту, надрукаваныя праз два інтэрвалы на беларускай мове, дасылайце калі ласка ў 2-х экз. да 3 кастрычніка 1994 г. на адрас: 224665, г. Брэст, бульвар Касманаўтаў, 21. Брэсцкі педінстытут, Яцкевічу С.А. Пакольні атрыманыя матэрыялы будуць перадрукоўвацца, прытрымлівацца пэўных норм іх афармлення неабавязкова, але аргкамітэт просіць усіх аўтараў паклапаціцца аб змястоўнай адпаведнасці дасылаемых матэрыялаў тэматыцы канферэнцыі, а таксама аб іх стылістычнай і арфаграфічнай дакладнасці. Рэдкалегія пакідае за сабой права адбору матэрыялаў і (пры неабходнасці) іх рэдагавання. Да тэзісаў трэба прыкласці аўтарскую даведку з указаннем імя і прозвішча, вучонай ступені і звання, месца працы і пасады, адраса і тэлефона.

**Тэлефоны для даведак: 625-14; 333-44; 333-42 (код г. Брэста: 8-01622).**

**АРГКАМІТЭТ.**

**ПАРОДЫІ**

*Янусь МАЛЕЦ*

### АГРЭСІЎНЫ КОТ

*Пагойдваюся на суку*
*Сваіх нягод.*
*Трымае Ён маю руку,*
*А я — Яго.*

*І хоча Ён мяне трымаць*
*Да скону дзён.*
*Ды не хачу я аддаваць*
*Руку ў палон.*

Кастусь ЖУК. Верш «Лёс».

Прысеў аднойчы на суку,
А побач — Кот.
Падаў Яму сваю руку,
А Ён — у рот!

«Апсік! — сіплю. — Пайшоў ты прэч!» —
А Ён мне: «Мяў!
Руку б адгрыз табе да плеч —
Каб не пісаў!»

«Мазгі, — кажу, — не адгрызеш,
Хоць ашалей.

Ствараць я буду зараз верш —
Лаві мышэй!»

Вось так таго Ката прагнаў,
І — д'яблаў лёс! —
Маю Ён жонку абкусаў
Тады да слёз.

А мо й не жонку — так каго? —
Тут як сказаць...
Вазьмі, злаві цяпер Яго,
Каб распытаць!

**АД РОДНАЕ ЗЯМЛІ**

## Круглы год цвітуць «Пралескі»

Не верыце? Што, веснавым кветкам — адна веснавая пара? А вы збярыцеся ў знакамітую сваімі талентамі Крупіцу, што пад Менскам, ці пабывайце на канцэрце ансамбля цымбалістак з тутэйшага Дома культуры падчас іх выступлення ў розных кутках Беларусі. Усе сумненні развеюцца, бо самі дзяўчаты — бы тыя блакітнавокія красавіцкія пралескі. Нездарма ж па назве гэтых кветак пайшло найменне творчага калектыву. І музыка ў іх — бы чароўны спеў вясны, перазвон празрыстых ручаёў, шчэбет вясёлых птушак.

Дзе б ні даводзілася «Пралескам» паказваць сваё мастацтва, больш за ўсё яны любяць іграць дома, у засені квітнеючага саду. Тады срэбны голас цымбал разносіцца далёка па наваколлі, зліваецца з хараством прыроды, абуджанай зямлі. Ну, а іншай парой, восенню ці ўзімку ён робіць немагчымае: нагадвае і вяртае красу майскага цвіцення, вясну чалавечага жыцця —маладосць.

Хто ж не рады з ёй сустрэцца? Вось і запрашаюць крупіцкіх цымбалістак на святы і ўрачыстасці, прысвечаныя працы і паэзіі, лепшым людзям зямлі і героям вайны.

Мастацкі кіраўнік калектыву Зоя Пятроўна Філонава мае ўсе падставы радавацца таму, што творчай сталасці ансамбля не перашкаджае малады ўзрост яго ўдзельнікаў. Наадварот, ён дапамагае ім у творчых пошуках, дапамагае працаваць з бачаннем перспектывы. Тым больш у многіх — Ядвігі Урублеўскай, Іны і Людмілы Чабрыцкіх, Святланы Кец, Наталлі Затыка, Надзеі Міцуль, Святланы Лобавай — за плячыма музычная школа, першыя крокі да авалодання ігрой на народных інструментах. Цымбалы ж, родныя беларускія цымбалы — іх асаблівае захапленне і любоў. У адзіным ансамблі яны спасцігаюць сакрэты выканаўчага майстэрства.

Беларускія цымбалы маюць шмат падабенства са сваімі блізкімі «сваякамі» — рускімі гуслямі, украінскай бандурай, літоўскім кантэле, узбекскім чангі. Але ёсць у іх свая непаўторная адметнасць, што ідзе з глыбінь вякоў. Здаўна цымбалы былі неадзельны ад вясковага жыцця, народных святаў, гульняў, абрадавых дзеяў у розных кутках Беларусі. І зараз іх мілагучны перазвон уносіць светлую ноту ў любую ўрачыстасць, становіцца ўпрыгожаннем любога канцэрта.

Зоя Філонава, выпускніца Менскага музычнага вучылішча імя Глінкі — спецыяліст з высокай тэарэтычнай падрыхтоўкай і мастацкім густам. Яна цудоўна валодае гэтым інструментам, імкнецца развіць дараванне, выхаваць высокую выканаўчую культуру ў сваіх падапечных. А яшчэ цэніць яркую індывідуальнасць маладых цымбалістак. пры гэтым дабіваецца злітнасці ў адно цэлае гучання розных інструментаў, сапраўднай ансамблевасці, выразнасці. Менавіта гэтыя якасці самадзейнага калектыву адзначыў народны артыст Беларусі Б. Пянчук пасля выступлення ансамбля, якому ў той дзень было прысвоена ганаровае званне народнага.

Рэпертуар у «Пралесак» багаты і разнастайны. Тут творы беларускіх кампазітараў, руская і сусветная класіка. Асаблівае ж месца, натуральна, займае народная музыка, напевы роднага краю.

Беражлівы падыход да фальклорна-этнаграфічнай асновы выконваемых твораў, тактоўнае ўзбагачэнне народных мелодый арыгінальнымі варыяцыямі, падгалоскамі надае ім глыбокую выразнасць і непаўторны каларыт. А даўняя дружба з выкладчыкам музычнага вучылішча Таццянай Сцяпанавай і народным артыстам Беларусі, рэктарам Беларускай акадэміі музыкі Міхаілам Казінцом дапамагае не спыняцца на шляху творчага пошуку і карпатлівай працы, у якіх нараджаецца натхненне.

**Адольф СУРЫНОВІЧ.**

**АФАРЫЗМЫ**

**Любіша МАНОЙЛАВІЧ**

Атэіст, які абразы краў, прынародна каяўся: «Маю грэх: хаджу ў царкву».

У гэтым, як вы ведаеце, я маю заслугі. А зараз давайце пабачым, хто ў гэтым вінаваты!

За свае ўчынкі чалавек павінен адказваць. Пакуль не стане адказным работнікам.

Бюракрат — вінаваты з тых, хто вызначае правільны кірунак.

Гэтая газета — лепшая, у яе можна болей загарнуць.

Учора мы абедалі. Між тым, ёсць філосафы, якія лічаць, што гэта трэба рабіць кожны дзень.

Гуз на галаве — помнік асобнай думцы.

Вось вам простае выслоўе: «Сітуацыя складаная».

**З сербскахарвацкай мовы пераклаў Іван ЧАРОТА.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1.



Індэкс 63865. Замова № 27

Газета набрана і звярстана ў рэдакцыі газеты «Паляўнічы і рыбалоў Беларусі».
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 5904 паасобнікі
Падпісана ў друк 4.07.1994 г. у 15 гадзін.